www.nv-online.info

№ 27 (3768)

5 красавіка 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТЭМА ДНЯ

## — У трактарысты не пойдзеце?



**Васіль ПАЎЛОЎСКІ,**
*намеснік міністра сельскай гаспадаркі Рэспублікі Беларусь:*
***— Нам не хапае да шасці тысяч механізатараў. Ёсць тэндэнцыя, што, магчыма, будзем звяртацца да студэнтаў-выпускнікоў ВНУ для асобных гаспадарак. Цяпер разглядаецца кожны працаўнік, які мае пасведчанне, каб кіраваць тэхнікай.***

Па словах В.Паўлоўскага, сёлета пасяўная пройдзе ў сціслыя тэрміны — ад дзесяці дзён да двух тыдняў. На поўдні яна пачнецца 15—17 красавіка, на поўначы — не раней за 20 красавіка.

Дарэчы, на пасяўную пойдзе больш за 13 трыльёнаў рублёў, заявіў Васіль Паўлоўскі. З іх 7,2 трыльёна — на мінеральныя ўгнаенні, 2,6 трыльёна — на паліва, 1,7 — на сродкі абароны.

Асобным гаспадаркам давядзецца дапамагаць з палівам, прызнае чыноўнік. Бо ў іх не хапае сродкаў.

СКАНДАЛ

# Крамольнае «Гродназнаўства»

*Яшчэ адзін гісторык звольнены з Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта*

Савет Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта не абраў доктара гістарычных навук Вячаслава Шведа на пасаду прафесара. Раней гісторык даведаўся, што пасля 26 сакавіка — па заканчэнні кантракта — ён таксама не будзе кіраваць кафедрай беларускай культуры і рэгіянальнага турызму.

Дарэчы, загад аб вызваленні Шведа з пасады загадчыка кафедры падпісаў яшчэ Яўген Роўба — былы рэктар ГрДУ, але потым ён і сам страціў пасаду. І так выбудаваўся сапраўдны ланцужок тых, хто звольнены альбо знаходзіцца пад пагрозай пазбаўлення працы.

Нагадаем, што скандалы ў Гродзенскім універсітэце пачаліся са звальнення гісторыка Андрэя Чарнякевіча. Тады і высвятлілася, што "нядобранадзейнымі" сталі выкладчыкі, якія маюць дачыненне да напісання кнігі "Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада". Аўтараў з-за гэтай кнігі нават у КДБ выклікалі. І задавалі дзіўныя пытанні накшталт: "А чаму кніга выдадзена ў Польшчы?", "А чаму кніга заканчваецца 1991 годам, што вы хацелі гэтым паказаць?.." Зразумела, што падручнік "Гродназнаўства" адразу знік і з крам, і з бібліятэк.

Кіраўнік Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра пасля скандалу прызнаўся, што меў асабістае дачыненне да звальнення Андрэя Чарнякевіча. "Наконт Чарнякевіча прымаў загад я асабіста, — сказаў кіраўнік Гродзенскага аблвыканкама. — Напісалі падручнік і надрукавалі за мяжой. За чые грошы? Не каб да мяне прыйсці і пагаварыць!.."

Акрамя таго, на сустрэчы з журналістамі Сямён Шапіра прызнаўся, што рэгулярна чытае зводкі КДБ і ведае ўсіх універсітэцкіх "апазіцыянераў" пайменна. "Ва ўніверсітэце 16 чалавек, якія заклікаюць звергнуць уладу", — сказаў кіраўнік вобласці.

Нармальнаму чалавеку цяжка зразумець прэтэнзіі да таго, што кніга выдадзена Польскай акадэміяй навук ва ўроцлаўскай друкарні. А вось прэтэнзія да "апазіцыйнасці" — у нашых умовах гэта сур'ёзна. На выкладчыкаў пачаўся ціск. Чарнякевіч стаў першым, але не апошнім з тых, хто пазбавіўся працы.

Пару дзён таму аб сваім сыходзе з універсітэта на знак пратэсту супраць ціску на калег у адкрытым лісце да кіраўніка Гродзенскага аблвыканкама заявіў старшы выкладчык кафедры тэорыі дзяржавы і права Ігар Кузьмініч.

*"Якую эліту можа выхаваць загнаны, як той воўк, абкладзены чырвонымі сцяжкамі і крыкамі паляўнічых, выкладчык? Ён можа выхаваць зацюканага, няўпэўненага ў сабе баязліўца, не здольнага не толькі самастойна прымаць рашэнні, але нават і думаць самастойна,* — напісаў выкладчык. — *Глядзець у рот "начальству" і чакаць загадаў — гэта ўсё, на што ён будзе здольны. А як жа місія нашага ўніверсітэта? Якую карысць асобе, грамадству і дзяржаве можа прынесці запалоханы выкладчык? Якую карысць грамадству і дзяржаве можа прынесці выпускнік, які не з'яўляецца асобай, здольнай прымаць рашэнні?*

*Ці азначае гэта, што мы пачынаем арыентавацца на выхаванне зацюканай эліты?*

*Тое, што адбываецца ў Гродзенскім універсітэце, баюся, не з'яўляецца лакальнай праблемай, а тычыцца ўсёй сучаснай беларускай сістэмы вышэйшай адукацыі".*

Толькі ў ГрДУ прайшоў першы шок пасля з'яўлення гэтага ліста, як стала вядома пра тое, што пасады прафесара пазбаўлены Вячаслаў Швед. І гэта пры тым, што год таму прафесара Шведа ўзнагародзілі медалём "За заслугі перад Гродзенскім дзяржаўным універсітэтам імя Янкі Купалы". А цяпер - звольнілі.

Фармальна Шведа не абралі калегі, Савет універсітэта. Але яны прызнаюцца, што ад таго, што адбылося, самі ў шоку.

**Алена НОВІКАВА.**

## З адкрытага ліста гісторыка Вячаслава Шведа

Упэўнены, што маё звальненне з'яўляецца палітычным рашэннем — помстай за выдадзеную кнігу "Гродназнаўства. Гісторыя еўрапейскага горада". Гэтая кніга была напісана па маёй ідэі, я стварыў калектыў аўтараў, кіраваў ім, напісаў больш за палову кнігі, рэдагаваў яе. Кніга была напісана па просьбе настаўнікаў Гродна, якія працавалі са школьнікамі па факультатыўным курсе "Гродназнаўства". Курс быў уведзены рашэннем сесіі гарсавета па ініцыятыве яго дэпутата А.Ласьмінскага, які ўхваліў і напісанне падручніка. Апошні быў выданы двума выданнямі ў Гродзенскім універсітэце пасля двухгадовых хаджэнняў у аблвыканкам, які так і не знайшоў грошай на выданне. Затым толькі было здзейснена трэцяе выданне ва Уроцлаве, у друкарні Польскай акадэміі навук.

Абвінавачванні аўтараў у падпольным выданні, такім чынам, беспадстаўныя. Падкрэсліваю, што ў Польшчы выдадзена кніга, а не падручнік, у чым таксама абвінавачваюць аўтараў. Мы таксама мелі права выбраць храналагічны перыяд гісторыі Гродна, пра які і напісалі тэкст, — да 1994 г., што ставяць нам у віну.

Паважаныя калегі, я не прашу Вашай дапамогі. Я хачу растлумачыць сваю пазіцыю, каб Вы ведалі, што я заўсёды пісаў свае творы, абапіраючыся на гістарычныя факты. За што сярод сваіх калег-гісторыкаў заслужыў прызнанне як глыбокі і аб'ектыўны гісторык.



# Кніга-выбух?

Чаму кніга па краязнаўстве так напалохала мясцовыя ўлады? На гэтае пытанне мы папрасілі адказаць вядомага гісторыка **Алеся Краўцэвіча**, былога першага прарэктара Гродзенскага ўніверсітэта, доктара гістарычных навук. Ён у свой час адмовіўся ад удзелу ў напісанні кнігі "Гродназнаўства", бо яго не задавальняла "савецкая" трактоўка некаторых гістарычных падзей.

— Гэтая кніжка двойчы выдавалася ў самім універсітэце, — расказвае Алесь Краўцэвіч. — Цяпер кніжку выдалі незалежныя выдаўцы. Але яны папросту зрабілі ілюстраванае выданне. Там шмат цікавых ілюстрацый, фотаздымкаў, у тым ліку ўнікальных. Ёсць здымкі з бел-чырвона-белым сцягам і з "Пагоняй". Але мы з гісторыкам Алесем Смаленчуком адмовіліся ўдзельнічаць у падрыхтоўцы гэтай кніжкі менавіта з-за яе залішняй савецкасці. Той жа Вячаслаў Швед, на маю думку, неправамерна пісаў пра "масавы энтузіязм працоўных" у 1970-я гады XX стагоддзя.

— **Чаму ж тады яго выганяюць як непрыдатнага для працы?**

— У час апошніх парламенцкіх выбараў, відаць, быў нейкі конкурс у асяродку КДБ, хто больш знойдзе "ворагаў народа". Вось і выбралі гэтую справу. Кніжка карысталася попытам, людзі яе ахвотна сталі набываць. Аўтараў пачалі паціху прэсаваць. Што ж да самога Вячаслава Шведа, то ўсе перакананы, што звальненне — гэта была ініцыятыва нашага абласнога кіраўніка Сямёна Шапіры. Ды ён і сам на гэта намякаў...

Вучоны савет не прагаласаваў за Шведа... Гэта дзіва нейкае. Па-першае, атэстацыйная камісія аднагалосна прагаласавала "за". Па-другое, Вячаслаў Швед — прафесар не пенсіённага ўзросту. Для правінцыяльнага ўніверсітэта гэта рэдкасць. Прафесараў не хапае, а яны вельмі патрэбныя, каб універсітэт меў статус. Швед мае больш за два дзясяткі публікацый, кніжак — у асноўным пра Гродзеншчыну.

Па-трэцяе, ён больш за 30 гадоў працуе ва ўніверсітэце і не мае такіх ворагаў, каб галасавалі супраць яго.

Па-чацвёртае, год таму яго ўзнагародзілі медалём за заслугі перад Гродзенскім універсітэтам. А Савет за яго не прагаласаваў?..

Усе мае знаёмыя кажуць, што вынікі выбараў былі сфальсіфікаваны.

### АФІЦЫЙНА

**У Гродзенскім універсітэце, калі даведаліся, што "Народная Воля" вырашыла атрымаць нейкія каментарыі па гэтым пытанні, спачатку прасілі пачакаць, а праз пару гадзін адказалі, што ніякіх каментарыяў не будзе.**

**Што ж, нічога дзіўнага ў гэтым няма. Наадварот, звычайная гісторыя — калі спачатку робіцца брудная справа, а потым і сказаць няма чаго...**

## Інтэлігенцыя супраць палітычных звальненняў

*"Звальненне з працы па палітычных матывах — не толькі парушэнне працоўнага заканадаўства і міжнародных абавязацельстваў... Пазбаўленне працы, пагроза звальнення — механізм уздзеяння на іншадумцаў унутры краіны, нагнятанне атмасферы страху",* — гаворыцца ў заяве прадстаўнікоў інтэлігенцыі.

Заяву падпісалі філосаф Валянцін Акудовіч, пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў, народны пісьменнік Беларусі Рыгор Барадулін, філосаф Валер Булгакаў, паэт Генадзь Бураўкін, музыкант Лявон Вольскі, праваабаронца Алег Гулак, старшыня Рады інтэлігенцыі Уладзімір Колас, доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч, рэжысёр Валер Мазынскі, мастак Аляксей Марачкін, старшыня руху "За свабоду" Аляксандр Мілінкевіч, лідар кампаніі "Гавары праўду" Уладзімір Някляеў, доктар гістарычных навук Алесь Смалянчук.

Падпісанты заявы адзначаюць, што палітычна матываваныя звальненні — *"гэта яшчэ і інструмент замежнай палітыкі, які скарыстоўваецца менавіта тады, калі назіраюцца тэндэнцыі да нармалізацыі адносін з Еўрасаюзам... І кожны раз гэта робіцца для таго, каб абвастрыць адносіны з аб'яднанай Еўропай. Ва ўладзе ёсць людзі, якія не хочуць, каб адносіны Беларусі з еўрапейскай сям'ёй народаў паляпшаліся. Пакуль гэтыя сілы будуць мець уплыў, датуль яны будуць напружваць сітуацыю, скіроўваючы Беларусь на ўсход, у Расію. Менавіта яны з'яўляюцца „пятай калонай". Такая палітыка вельмі небяспечная, бо можа прывесці да страты незалежнасці".*

Прадстаўнікі інтэлігенцыі заклікаюць выказаць салідарнасць з усімі, каго звальняюць з працы, выключаюць з навучальных устаноў, пераследуюць па палітычных матывах. Яны таксама заклікаюць Міжнародную арганізацыю працы, прафсаюзы, міжнародную дэмакратычную супольнасць адэкватна адрэагаваць на парушэнні ў Беларусі аднаго з асноўных правоў чалавека — права на працу.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Размолвка

Экономика Беларуси всегда нуждалась во внешних кредитах и займах. В этом, собственно, нет ничего странного. Некоторые страны экспортируют больше, чем импортируют, у них образуется излишек валютных средств, то есть положительное сальдо торгового или платежного баланса. Это дает им возможность выступать в качестве кредиторов других стран или доноров международных кредитно-финансовых институтов типа МВФ.

Другие страны, как наша, больше импортируют, чем продают на международных рынках. Отрицательное сальдо торгового баланса им надо чем-то закрывать. Можно за счет накопленных ранее золотовалютных резервов, а если их мало или нет вовсе, то минусовое сальдо закрывается внешними валютными заимствованиями, которые надо, сами понимаете, получить и своевременно возвратить.

Беларусь почти во все времена относилась ко второй группе стран — стран с выраженным пассивным торговым балансом. Отрицательное сальдо было рекордным в 2010 году, достигнув свыше 7 миллиардов долларов. Большая часть нынешних золотовалютных резервов страны также сформирована за счет внешних займов. Основные займы в свое время белорусскому руководству предоставляли правительство России и МВФ. Теперь настало время собирать камни.

В нынешнем году этим и другим кредиторам наша страна должна свыше 3 миллиардов долларов. По тому, как складывается торговый баланс с начала года (а за январь-февраль сальдо по внешней торговле товарами ушло в минус 396,5 миллиона долларов против плюсового 519,8 миллиона за такой же период прошлого года), правительство и Нацбанк видят, что источников покрытия внешнего долга не набирается. Уже за два месяца Беларусь потратила на обслуживание внешнего долга 530 миллионов долларов. Необходимо срочно занимать деньги! Либо у тех же, традиционных кредиторов, либо у других. Иными словами, нужно брать новые кредиты, чтобы отдать старые, что и называют хитрым словом "рефинансирование".

Однако нынче руководству нашей Синеокой давать кредиты не спешат. Ни Нацбанку, ни правительству, ни президенту. И, главное, прямо никто не отказывает. Насчет 2-миллиардного госкредита на модернизацию россияне сказали: мол, коль вопрос поставлен, то будем изучать. А сами каждый очередной транш кредита Антикризисного фонда на 2—3 месяца задерживают.

Гостила недавно в Беларуси очередная миссия МВФ — и тоже ничего. Подтвердила лишь свои старые требования к белорусской экономике, выполнение которых должно приближать ее к рыночным стандартам и которые руководство страны постоянно не выполняет. Так, например, контроль за ценами — то ослабевает, то усиливается. Приватизация — то проводится, то сменяется национализацией (кондитерские предприятия, холдинг "Обувь-Луч", введение владельческого надзора). Малый и средний бизнес — то отпускают (упрощение регистрации), то придавливают (повышение арендной платы на 60%). Равных условий хозяйствования для госпредприятий и частников как не было, так и нет: государственным — субсидированные кредиты в полставки рефинансирования с компенсацией субсидий госбанкам из бюджета, или вовсе беспроцентные, частным — кредиты втридорога, по полной процентной ставке, которая в 2 раза и более превышает ставку рефинансирования Нацбанка. Первым — прямой доступ к любым ресурсам, вторым — что останется.

Конкретный пример. Постановлением Совмина №174 от 13.03.2013 г. Барановичскому производственному хлопчатобумажному объединению республиканский бюджет возмещает часть процентов банковского кредита в сумме 23,61 миллиона евро, который выдал по льготной ставке "Беларусбанк". Постановление №75 от 31.01.2013 г. утвердило кредиты для предприятий концерна "Беллесбумпром", проценты по которым также заплатит бюджет. По-прежнему правительство административными мерами выводит зарплату на заданные рубежи, не считаясь с ростом производительности труда, а Нацбанк, соответственно, гонит денежную массу. Видимо, осознавая все это, белорусское руководство и официальную заявку в МВФ на кредит к приезду миссии даже не подавало.

В свое время по рекомендации МВФ в Беларуси был создан Банк развития Республики Беларусь, главной задачей которому ставилось — взять на себя кредитование госпрограмм, связанных как раз с бюджетными субсидиями, с невозвратами кредитных средств. Освободить от них такие госбанки, как "Беларусбанк", "Белагропромбанк", "Белинвестбанк", проблемные кредиты которых уже перевалили за 1 миллиард долларов в эквиваленте. Чтобы они, так сказать, "слили" Банку развития эти "ядовитые активы". (Иначе сказать, на прибыльность этого банка расчет не делался.) Однако ничего этого не произошло. Мало того, размеры прибыли Банка развития за прошлый год увеличились в десятки раз. Он получил 1 триллион 560 миллиардов рублей и стал достойным конкурентом коммерческих собратьев. Вместо того чтобы очистить госбанки от "токсичных кредитов" и ускорить институциональные реформы, Банк развития мощно подключился к процессу эмиссионного кредитования, работая, как говорят, на бабло. Вдобавок занялся выпуском собственных облигаций. Чего, надо заметить, в развитых экономиках такого рода кредитным учреждениям делать не рекомендуется. Как, впрочем, и центробанкам. Для нашего же Нацбанка выпуск своих облигаций — одно из привычных дел. Хотя именно этими более доходными ценными бумагами он "положил" в свое время рынок минфиновских краткосрочных облигаций.

Результатом всего этого в итоге стала двухзначная инфляция. Эти и другие "особенности" белорусской экономики подчеркивают не только МВФ, но и Евразийский банк развития — распорядитель Антикризисного фонда — в опубликованном им последнем обзоре экономик СНГ. Кредитовать такую экономику, как наша, — себе дороже. Об отсутствии глубоких структурных реформ в белорусской экономике МВФ устал уже говорить. Ее авторитарная природа остается незыблемой. МВФ считает достижение 8,5% роста ВВП при 12%-ной инфляции в этом году нереальным, снижение ставки рефинансирования с 13 марта — преждевременным. Фонд рекомендует ограничить рост зарплаты размером инфляции, т.е. 12 процентами. Но кто же слушает опытных экономистов?

В то же время путешествие высокопоставленной белорусской делегации в Индонезию, Сингапур и Объединенные Арабские Эмираты за новыми займами ничем, по сути, не кончилось. Финансовые круги этих стран не изъявили горячего желания приобрести белорусские государственные облигации. Они, надо думать, посчитали кредитоспособность белорусской экономики весьма сомнительной. Один пример Греции и Кипра, чьи банки имели неосторожность купить такие рискованные облигации, чего стоит! Несмотря на заявления белорусских высших чиновников, что, мол, жили без МВФ и дальше проживем и что у Совета директоров Фонда преобладают при решении вопроса по Беларуси политические мотивы, правительство вынуждено было вновь бросить свой взор на этого кредитора. Ситуация, сами понимаете, прижимает. В апреле предстоят очередные платежи по долгам. Неровен час, придется отдавать их за счет золотовалютных резервов. А Антикризисный фонд снова тянет с траншем. Минфин вызвался быть инициатором составления всеобъемлющей масштабной программы макроэкономических реформ, как того требует МВФ. Она должна содержать либерализацию цен, ограничения кредитной эмиссии, укрепление прав собственности, приватизацию, другие структурные реформы. Чем черт не шутит, может, со временем и обломится что-нибудь от Фонда. Ну а Россия в любом случае никуда не денется.

НАДВОР'Е

## Лютая вясна

На выхадных чакаецца снег, уначы да 12 градусаў марозу, паведаміла галоўны сіноптык службы гідраметэаралагічных прагнозаў Белгідрамета **Людміла Парашчук.**

Па яе словах, пакуль сіноптыкам няма чым нас парадаваць, хаця, паводле папярэдніх прагнозаў, вясны можна чакаць на наступным тыдні.

*"Тэмпература ў начны час на выхадных будзе паніжацца да -1...-6, па некаторых раёнах да 12 градусаў марозу. У выхадныя чакаюцца дажджы па ўсходзе краіны і снег — на захадзе. Праз гэта ў паўночна-заходніх раёнах Беларусі павялічыцца вышыня снежнага покрыва",* — прагназуюць сіноптыкі.

ДЫПКУР'ЕР

## Новы пасланнік Кіева



Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Украіны ў Беларусі прызначаны 60-гадовы **Міхаіл Ежаль.**

Адпаведны ўказ падпісаў прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч.

Нагадаем, у жніўні 2011 года амбасадарам Украіны ў Беларусі быў прызначаны Віктар Ціханаў. Аднак у канцы лістапада 2012-га, пасля абрання дэпутатам парламента, Ціханаў пакінуў Мінск.

Міхаіл Ежаль з 11 сакавіка 2010 года па 8 лютага 2012 года быў міністрам абароны Украіны. Акрамя таго, вядома, што хобі новага ўкраінскага амбасадара ў Беларусі — спартыўныя гульні, тэніс і парусны спорт.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
5 КРАСАВІКА 2013 г.

СТОЛИЦА

## В Минске появится Старотроицкая площадь

Депутаты Мингорсовета приняли решение о присвоении названий ряду безымянных и проектируемых улиц.

Так, проектируемой улице 4-е кольцо от проспекта Победителей до улицы Тимирязева присвоено название "Улица Ратомская" — в честь поселка Ратомка, находящегося на автодороге Р-28 Минск—Молодечно, которая является продолжением пр.Победителей.

Безымянному проезду от Минской кольцевой автодороги до аэродрома "Липки" присвоено наименование "Улица Липковская". А безымянный проезд от улицы Липковской до аэродрома "Липки" получил название "Переулок Липковский". Эти наименования даны в честь урочища Липки, которое существовало здесь в первой половине XX века.

Безымянному проезду, который является продолжением улицы Слободской на участке от улицы Есенина до МКАД, решено присвоить наименование "Улица Ольшанская" — в честь хутора Ольшаны, который существовал здесь в XIX — начале XX века.

А вот безымянная площадь, которая находится на улице Максима Богдановича, 2, на территории бывшей 2-й городской клинической больницы, будет называться Старотроицкая площадь. В Троицком предместье в XIII — начале XX века существовала площадь, которую минчане называли Старый, или Троицкий, рынок. Пожар 1809 года полностью уничтожил застройку предместья. Сохранилось только каменное здание Троицкого Вознесенского монастыря, в котором в 1834 году находилась губернская больница. Рядом в 1840 году были построены еще два здания больницы, которые вместе с бывшим монастырским корпусом создали полукруглый парадный сквер, ориентированный на современную улицу Богдановича.

ВІДАВОЧНАЕ—НЕВЕРАГОДНАЕ



# Як адзін вясковец стаў атрымліваць «генеральскую» пенсію

*Агульнавядома: пенсіі ў вяскоўцаў (як і ў большасці астатніх беларусаў) падагнаны пад сярэднеарыфметычны паказчык — мала ў каго перавышаюць два мільёны рублёў. І 62-гадовы* ***Вячаслаў Аляксандравіч Берасневіч*** *атрымліваў да нядаўняга часу гэткі ж "пенсіён" — 1 мільён 700 тысяч. А тут выклікаюць яго ў "сабес" і кажуць: будзеш атрымліваць... пяць з паловай мільёнаў рублёў. У перараазліку з нашых рублёў на грошы — недзе каля 650 долараў, а гэта вышэй, чым сярэдні заробак па краіне. І ніякая тут не "памылка", а самая што ні на ёсць жалезная рэальнасць, хай сабе і дзіўная: ну дзе бачана, каб чалавек ад сахі атрымліваў генеральска-дэпутацкую пенсію?!. Не ўдарнік, не "стаханавец", не пераможца розных "Дажынак", не дэпутат "палаткі" — і раптам такое...*

**— Дык у чым фокус? — пытаюся ў былога саўгаснага механізатара. — Можа, "Белічы" — ушчэнт даведзеная да ручкі гаспадарка на Случчыне — пераадолела крызіс, выбілася ў лідары, таму і пенсіі скокнулі да еўрапейскіх?..**

— Якое там, — пасміхаецца той, — цяперашні стан гаспадарання — плакаць хочацца. І заробкі ў людзей адпаведныя — ледзьве дацягваюць да гарантаванай мінімалкі. Карацей — поўны "клін"... А цяпер, як ты кажаш, пра фокус з падвышэннем пенсіі: уласна кажучы, ніякага фокуса няма, бо пенсію мне налічылі... расіяне.

**— З гэтага моманту — больш падрабязна,** — прашу суразмоўцу.

— Ну як было... — працягвае той. — Выклікалі ў Слуцкі "сабес" і паведамілі: сацыяльная служба Чэхаўскага раёна Маскоўскай вобласці налічыла мне пенсію ў адпаведнасці з працоўным стажам і заробкамі ў ААТ "Любучанскі". Тое налічэнне канверталі ў беларускія грошы і атрымалася сума ў 3 мільёны 830 тысяч беларускіх рублёў. Плюс беларуская пенсія і агулам атрымліваецца 5 мільёнаў 500 тысяч... От і ўвесь фокус... Адзінае, будуць выплачваць пакваратальна.

**— Цікава, калі ж паспеў нарабіць свой "пенсіён" у Расіі? Наколькі ведаю, увесь час працаваў тут, на радзіме — то трактарыстам, то электрыкам, то жывёлаводам...**

— Не зусім так. Як справы ў "Белічах" пайшлі наперакасяк, то мусіў чухаць патыліцу... А тут яшчэ і ўнучка нарадзілася, значыцца, хацелася памагчы маладым. А як, калі ў нашай "арцелі" заробак ніжэй плінтуса? Ну і паехалі з жонкай да радні — спачатку пад Саратаў, потым у Падмаскоўе... Быў 2005 год... Прыходжу ў кантору "Любучанскага" і пытаю: трактарысты патрабуюцца? А тыя ледзь не хорам: яшчэ як патрэбны, з рукамі і нагамі возьмем, імгненна афармім!..

І на гусенічным магу, кажу ім, і на колавым, і з любымі прычапнымі ўпраўлюся. Хоць на танку — у войску ж механікам-вадзіцелем быў... Але тут высвятляецца, што мае беларускія механізатарскія "дыпломы" — правы на ваджэнне трактароў — не сапраўдныя ў Расіі. І што рабіць? Намеснік дырэктара па вытворчасці Аляксандр Пятровіч Одзін палістаў "ксёнжку" і кажа: "Дык ты — калі верыць запісам — не толькі трактарыст бывалы, але і электрык, і газазваршчык, і нават механік па рамонце вылічальнай тэхнікі. А нам якраз электрык патрэбны... Значыцца, будзеш па электрычнасці галоўным..." Так і стаў я любучанскім электрыкам, пасля старшым электрыкам, нават за галоўнага энергетыка работу выконваў.

**— І колькі расійская адысея працягвалася, якімі былі заробкі?**

— Лічы, сем гадоў... Спачатку плацілі мала — недзе сем тысяч рублёў. Але праз пару месяцаў — ужо 12, потым 14, потым 18 тысяч. І гэта толькі "голы" аклад, на самай жа справе чыстымі выходзіла і 35, і 45 тысяч...

**— Як так?..**

— Проста: адна стаўка на шасці малочна-таварных фермах, палова стаўкі за электраабслугоўванне жыллёвых баракаў, дзяжурствы па выхадных — я ж прыехаў зарабляць, а не лынды біць. Карацей — і я задаволены, і начальства.

**— "Любучанскі" — калгас ці якая прыватная гаспадарка? На чым спецыялізуецца? Наколькі эфектыўнае там гаспадаранне, як жывуць людзі?**

— Ва ўсім Чэхаўскім раёне — толькі чатыры сельскагаспадарчыя адкрытыя акцыянерныя таварыствы, ААТ "Любучанскі" — адно з іх. Спецыялізуецца на малочна-таварнай вытворчасці. Астатняя зямля ў прыватнікаў, да ўсяго там розных заводаў, фірм — процьма... І вось што ўразіла больш за ўсё: у сельскай гаспадарцы з мясцовых амаль ніхто не працуе — усе паўладкоўваліся на прамысловых прадпрыемствах. Жывуць у сельскай мясцовасці, а заняты на прамысловасці... Зразумела чаму — заробкі на парадак, а то і два вышэйшыя. І потым, каму ахвота корпацца ў гноі, калі ёсць альтэрнатыва?..

**— Добра, а хто ж тады даглядае жывёлу — хто яе поіць, корміць, доіць?**

— Прыезджы люд — гастарбайтары... З Казахстана, з Таджыкістана, Узбекістана. З нашых, са славян, — толькі я з жонкай і быў... Адну ферму дык цалкам абслугоўвалі таджыкі. Па-нашаму амаль не размаўляюць, прыходзілася ледзь не на пальцах тлумачыць ім, што да чаго... Але людзі неблагія, таварыскія — у мяне і сябра быў Саід... Аднойчы да яго прыехала жонка з дачкой. Я і пытаюся: Саід, а чаму тваё дзяўчо школу не наведвае? А ён мне: навошта?.. Грошы ўмее лічыць, болей і не трэба...

Што адносна гаспадарання, ладу жыцця, то мала розніцы паміж нашымі "Белічамі" і тым "Любучанскім" — гэтакі ж бардак, як і ў нас. Мужыкі п'юць, бабы не адстаюць... Прысядзібныя агароды і сады — у запусценні. Адна розніца: на фермах парадак, і абсталяванне скрозь імпартнае — італьянскае. Уяўляеш, замест расійскіх 55-кілаватных рухавікоў — "забугорныя" 4-кілаватныя разам з помпамі, суперсучасныя халадзільнікі. А вось малакаправод і даільныя апараты-прысоскі звычайныя — ніякай спецыяльнай даільнай залы. Але ўсё працуе спраўна, як швейцарскі хранометр — без збояў і паломак, надзейна. Праўда, малако пры адпраўцы — асабліва ў Маскву — разбаўляюць... Мясцовыя кажуць: а навошта масквічам занадта тлустае, хай берагуць талію... Словам, усё прыкладна як у нас. Калі хто скажа, што ў нашым раёне такое не рабілася ці не робіцца, то хай перахрысціцца...

**— Вячаслаў, а як у "Любучанскім" з земляробствам? Што вырошчваюць, як абрабляюць палеткі, якія там ураджаі?**

— На мой розум і назіранне, дык зямля там малаўрадлівая — суглінкі, супесі... Тэхнікі рознай навалам, але не скажаш, што агранамія на сучасным узроўні. Ды якая культура земляробства, калі 90 працэнтаў зямлі — пад шматгадовымі травамі. Статак велізарны, карміць жывёлу нечым трэба... Што здзівіла? Не паверыш, сваімі вачыма бачыў, як адкрылі пяцігадовай даўніны бурт (пад саломай, не пад плёнкай), у якім быў... нармальны сенаж. Не згніло і не скісла... На ўсю гаспадарку мо якіх 20 гектараў пад бульбай, але пра ўраджай смешна казаць... Аднойчы назіраў, як уносілі арганіку — гэта штосьці з нечым... Зімою паскідвалі на снег копчыкі гною, а ўвесну збольшага рассунулі — як Бог на душу пашле... І ўсё! У маі гляджу на тое поле — хочаш плач, хочаш смейся: адна паласа ажно сіняя, другая бура-зялёная. І такая дзікая цераспалосіца праз увесь палетак...

**— Культура земляробства, як разумею, кульгае на абедзве нагі, а заробкі вунь - не раўня нашым... У чым справа, як думаеш?**

— А і думаць няма чаго: пакуль у сібірскіх нетрах плешчацца нафта ды прыродны газ, то будуць у расіян заробкі з пенсіямі... І нам тое-сёе перападзе, мне ж вось перапала... А як яно будзе далей — аднаму Богу вядома...

**Георгій ПЛАТОНАЎ.**

*Слуцкі раён.*

РЕЙТИНГ

## «Беларуськалий» в десятке прибыльных компаний

Компания Coface, опубликовавшая список 500 крупнейших по обороту компаний Центральной и Восточной Европы, опять оставила без внимания Беларусь. Хотя, как подсчитал "Ежедневник", по чистой прибыли "Беларуськалий" входит в первую десятку компаний региона.

Авторы CEE Top-500 2012 систематизировали показатели за 2011 год. По данным Министерства финансов Беларуси, в этом же периоде чистая прибыль "Беларуськалия" составила в пересчете (курс на 1 января 2012 года — 10.800 рублей за 1 евро) 676.544 тыс. евро. И в итоге белорусское предприятие заняло в 2011 году 10-е место в Центральной и Восточной Европе, уступив двум польским и двум венгерским, чешской, латвийской, украинской, румынской и словацкой компаниям. В исследовании Coface, правда, не учтены также данные по Черногории, Молдове, Боснии и Герцеговине. Но объективно представители этих стран не могут составить конкуренцию первой двадцатке крупнейших компаний Центральной и Восточной Европы.

На достаточно высокой позиции по итогам 2011 года оказывается еще одна белорусская публичная компания — "БелАЗ". Чистая прибыль производителя большегрузной автотехники в рассматриваемом периоде составила 192 899 тыс. евро. В итоге жодинцы вошли в топ-50 самых прибыльных предприятий региона, заняв 43-ю строчку.

А двадцатка данного рейтинга выглядит так:

**Топ-20 крупнейших компаний Центральной и Восточной Европы по чистой прибыли**

*(Данные Coface и Министерства финансов Беларуси за 2011 год)*

| № | Компания | Страна | Отрасль | Чистая прибыль за 2011 год, в тыс. евро |
|---|---|---|---|---|
| 1 | KGHM Polska Miedz | Польша | Горнорудная | 2.494.158 |
| 2 | CEZ | Чехия | Энергетика | 1.451.663 |
| 3 | PGE | Польша | Энергетика | 1.120.976 |
| 4 | Latvenergo | Латвия | Энергетика | 940.060 |
| 5 | GE Hungary Iparies Kereskedelmi | Венгрия | Металлургия | 915.533 |
| 6 | Нафтогаз Украины | Украина | Нефтегазовая | 870.846 |
| 7 | OMV Petrom | Румыния | Нефтегазовая | 853.108 |
| 8 | Audi Hungaria Motor | Венгрия | Автомобилестроение | 759.180 |
| 9 | Slovensky plynarensky priemysel | Словакия | Нефтегазовая | 746.872 |
| 10 | Беларуськалий | Беларусь | Химическая | 676.544 |
| 11 | Ингулецкий ГОК | Украина | Горнорудная | 626.833 |
| 12 | Северный ГОК | Украина | Горнорудная | 594.919 |
| 13 | MOL | Венгрия | Нефтегазовая | 592.061 |
| 14 | Skoda Auto | Чехия | Автомобилестроение | 555.517 |
| 15 | Синтез-газ Украина | Украина | Нефтегазовая | 520.144 |
| 16 | Jastrebska Spolka Weglowa | Польша | Горнорудная | 474.635 |
| 17 | Slovenske Elektrarne | Словакия | Энергетика | 457.190 |
| 18 | Orlen | Польша | Нефтегазовая | 454.242 |
| 19 | Telekomunikacja Polska | Польша | Телекоммуникации | 432.375 |
| 20 | Укргаздобыча | Украина | Нефтегазовая | 403.587 |

ДЕМОКРАТИЯ ПО-БЕЛОРУССКИ

## «Находка» Козика

В Беларуси началась новая кампания по борьбе с независимым профсоюзным движением. На фоне непростой социально-экономической ситуации, которая все больше выходит из-под контроля, существование неподконтрольных, с растущим рейтингом доверия организаций, способных влиять на рабочих, расценивается властями как серьезный фактор риска. Именно этим можно объяснить нарастание давления, дискриминации независимых профсоюзов и их членов, расправу над их лидерами.

Нашим соратникам на РУПП "Гранит", РУП "Бобруйский завод тракторных деталей и агрегатов", ОАО "Полоцк-Стекловолокно", ОАО "Мозырский НПЗ", ОАО "Нафтан", Полоцком винодельческом заводе приходится испытывать на себе весь набор хамских приемов авторитарной власти: от перманентных шантажа и угроз до увольнений с работы.

Наряду с этим предпринимается попытка решения "проблемы" независимых профсоюзов на законодательном уровне. На прошедшем 26 марта заседании Совета по вопросам совершенствования законодательства в социально-трудовой сфере ФПБ выступила с инициативой внести в законодательство, регламентирующее деятельность профсоюзов, изменения. Речь идет о введении так называемого принципа представительности. В соответствии с ним право представлять работников — вести коллективные переговоры, заключать коллективные договоры — должна иметь более многочисленная организация.

Таким изящным способом, по замыслу авторов, из сферы социального диалога убирается независимое профсоюзное движение. Причем на всех уровнях — национальном, отраслевом, уровне предприятий. Идею поддержал председательствующий на заседании Совета заместитель министра труда Игорь Старовойтов. Чиновник заявил, что проблема такая назрела и ее надо решать. Этот факт дает основания предполагать, что очередная провокация ФПБ на этот раз не является только импровизацией руководителей этой, на мой взгляд, вконец деградировавшей и дискредитировавшей себя организации. Скорее всего, получена отмашка сверху. А кто у нас отмахивает, всем хорошо известно.

С энтузиазмом откликнулся на предложение ФПБ также заместитель генерального директора Белорусской ассоциации промышленников и предпринимателей (БелАПП) Виктор Тимофеев. Вероятно, ему также понравилась идея вытеснения БКДП из профсоюзного поля страны, полного и окончательного превращения его в профсоюзное кладбище. Где, словно безжизненные мумии, останутся только глухие к нуждам и интересам трудящихся и немые в отношениях с властью прогосударственные профсоюзы — ФПБ. У которых главным начальником становится выходец из числа чиновников президента, а профсоюзных вождей на предприятиях подбирают директора, тоже, кстати, члены профсоюза. Чем не идиллия, а также вечный мир, дружба, жвачка?

Интересно будет проследить за развитием событий. Что возьмет верх — неодолимое желание раз и навсегда покончить с ненавистными независимыми профсоюзами или чувство самосохранения. Поскольку, можете быть уверены, с рук властям эта затея не сойдет, как и не сходила в аналогичных случаях раньше. Нам есть чем себя защитить, как и есть кому за нас заступиться, так как, в отличие от ФПБ, мы являемся частью международного профсоюзного движения.

**Александр ЯРОШУК, председатель Белорусского конгресса демократических профсоюзов.**

ЭКОНОМИКА

## Пакет акций обувного «Луча» безвозмездно переходит государству

Государство становится крупнейшим акционером минского обувного "Луча". Данное решение закреплено в постановлении правительства.

"Принять безвозмездно в 2013 году в республиканскую собственность акции Минского обувного открытого акционерного общества "Луч" — управляющая компания холдинга "Обувь-"Луч", находящиеся в собственности "Сивельга" (38.700 штук акций, номинальная стоимость почти 5 миллиардов рублей), "Луч" (10.479 штук, 1,3 миллиарда) и "Отико" (69.756 штук, 9 миллиардов)", — говорится в документе.

Государству в обувном "Луче" до недавнего времени принадлежало 0,015%, юрлицам — 26% акций, остальные акции находились в собственности персонала.

Ранее эти пакеты акций планировалось продать стратегическому инвестору с расчетом на вложение инвестиций в развитие холдинга.

ЧУЛІ?

## На цягніку ў аэрапорт?

Аляксандр Лукашэнка даручыў неадкладна распрацаваць праект чыгуначнага злучэння беларускай сталіцы з Нацыянальным аэрапортам "Мінск".

Такое даручэнне ён даў ураду і кіраўніцтву Беларускай чыгункі ў чацвер падчас сустрэчы з генеральным дырэктарам швейцарскай кампаніі „Штадлер Рэйл Груп" Петэрам Шпулерам.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Вясна ў агурковай сталіцы

Століншчыну вось-вось накрые паводкай... Красавік, а ўражанне, што прадвесне: усцяж Прыпяці набухлая абалонь, гатовая ў любы момант прарваць берагі ды падтапіць палі, лугі і вясковыя сядзібы. Яшчэ які тыдзень — і сонца канчаткова растопіць заснежаныя абшары, несучы Палессю абнаўленне жыцця. Першымі вестунамі таго абнаўлення, як і заведзена, сталіся ластаўкі і гракі — яны ўжо пryляцелі і радасна піўкаюць-пырхаюць над Альшанскімі прысадамі. Птушынае племя быццам падахвочвае людскую грамаду: варушыцеся, людцы, прыйшла пара брацца за справу!..

Але прыпяцкіх не варта доўга раскатурхваць: яны спрадвеку так — устаюць да ранку, а спаць кладуцца, як сонца ўжо на другім баку планеты. Пра альшанцаў і казаць залішне: вясна ўрываецца ў агурковую сталіцу задоўга да прылёту гракоў і разліву Прыпяці. Вялікае Малешава і самі Альшаны прачынаюцца ад стуку сякер — гаспадары-мужчыны даводзяць да ладу новыя цяпліцы, а жанчыны рассаджваюць духмяністую расаду ды раскачагарваюць цяплічныя "буржуйкі"... Дымны дрывяны пах, даўкі водар зяляніва — што можа быць усцешней для палешука?! А хіба дзіва: агурковы бізнес (мазольна-камерцыйны) — аснова дабрабыту большасці тубыльцаў. Лічы, на кожным двары іншамарка, а ў некаторых і па дзве, вялікагрузныя аўто-халадзільнікі, дыхтоўныя дамы...

А якія сем'і! Тут што ні сямейка — ад трох да дзесяці дзетак. Таму і моляцца зямліцы-карміцельцы, таму і шчыруюць на кожным квадратным метры сваіх цяплічак, што "яго вялікасць Агурок" зрабіў альшанцаў такімі, якія яны ёсць — заможнымі, вольнымі, малазалежнымі ад чыноўніцкай прыхамаці. Тут кажуць: у нас агурок зяляней амерыканскага долара... А берасцейскія дзяўчаты з іншых месцаў не хаваюць свае мары: хоць за старца, абы за альшанца... Але што гэта за альшанскі феномен? Чаму Альшаны ператварыліся ў гароднiна-бізнесовы цэнтр не адно Палесся, але ўсяе Беларусі? Хто быў пачынальнікам, і ці толькі з агуркоў жывуць сёння месцічы?



Некалі першымі "агурковы" бізнес пачалі браты Іван ды Міхал Грыбы — першыя альшанскія фермеры. Каб выведаць пра ўсё, кірую проста на сядзібу старэйшага — Івана Васільевіча. Пацэліў акурат: на мехдвары і сам фермер, і работныя людзі... "Сёння толькі закончылі абрэзку дрэў у садах, — задаволены гаспадар. — А цяпер во капусту пакуем, сартуем... Дасць Бог, да вечара ўправімся..."

Здзівіла, што на першым плане — капуста, а не агурковыя цяпліцы ды расада.

— Ці там усё спарадкавана? — пытаюся ў Івана Васільевіча.

— Само сабою, — кажа, — праўда, цяперашні мой галоўны клопат — саджанцы, падвоі, сады... Агурковаю справаю займаюцца ледзь не ўсе Альшаны — кожная сям'я. Канкурэнцыя — будзь здароў! Таму і заняўся садаводствам. Але не падумай, што кіруе толькі адна выгада: хочацца, каб зямля патанала ў садах, каб і напраўду было хораша, а не толькі сытна і заможна.

— Вас лічаць піянерам, першапраходцам на фермерскай ніве... З чаго ўсё пачалося, што змусіла кінуцца ў невядомае?

— На пачатку 1990-х не было ніякай працы, — распавядае Иван Грыб, — а карміць сям'ю трэба.





Толькі ў Міхала сыноў — шасцёра... А тут якая-ніякая воля-свабода... То сталі ездзіць у Польшчу, гандляваць. Адтуль везлі гародніну, садавіну, насенне. Пакрысе перайшлі на вырошчванне кветак, агуркоў, пазней — капусты. І першымі пачалі ўзводзіць у Альшанах цяпліцы. За намі і ўсе астатнія... А як сталі Альшаны "агурковай Мекай", то ўзяліся за стварэнне ў вёсцы кірмашу. Цяпер сюды з'язджаецца па агуркі ледзь не ўся Расія: на пачатку сезоннага распродажу абарот грашовы — да мільёна з гакам долараў, а то і болей! Фуры дзясяткамі снуюдаюць туды-сюды... Тут — пры жаданні — альшанцы маглі б за адзін дзень са свайго рынку заваліць агуркамі ўсю Беларусь. Вышэй за галаву, з дахам! Але рынак ёсць рынак: гандлюем з тымі, хто прапануе больш высокую цану, — і гэта правільна...



За апошнія 20 гадоў Альшаны і наваколле падняліся, як не за ўсю векавую гісторыю: людзі адчулі смак волі, сталі заможнымі, набылі пачуццё ўласнай годнасці. А ўсё таму, што не страцілі пачцівасці да роднай зямлі-карміцелькі, што працуюць не на сістэму — на сябе. Падумаць толькі, ва ўласнасці месцічаў больш за сотню трактароў, 60 вялікагрузных фур, і гэта без уліку асабістых легкавікоў. Тут будуецца да 30 новых дамоў! Вядомая справа: нарадзілася дачка, то трэба загадзя рыхтаваць будучы пасаг — і закладваецца падмурак новага дома... Гэтак ажыццяўлялася некалі "амерыканская мара", па гэтым шляху ідзе сёння Кітай. Прынцып адзін і той жа: заробленае мазалём і розумам — тваё.

Але не варта думаць, што "альшанская мара" збываецца лёгка: вострых калючак, супярэчнасцяў і барацьбы за месца пад сонцам хапае і тут. У Альшанах сёння 8 тысяч жыхароў — такой вялікай і багатай вёскі няма нідзе па Беларусі. І такога нястрымнага жадання быць гаспадаром свайго лёсу, як тут, таксама ні ў якім іншым месцы не знойдзеш. Вось толькі зямлі на ўсіх не хапае. І гэта праблема нумар адзін для альшанцаў, для малешаўцаў. У гэтую вясну яна абвастрылася да сапраўднага канфлікту з мясцовай уладай. Але пра гэта — у наступнай публікацыі...

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**

*Столінскі раён.*

ДИКОСТЬ

## В Борисове внук хранил в диване задушенного дедушку

*Как сообщает УВД Минского облисполкома, уголовное дело возбуждено в отношении 21-летнего жителя Борисова.*

Молодой человек подозревается в убийстве своего дедушки.

В ходе проведения оперативно-розыскных мероприятий по розыску без вести пропавшего жителя Борисова 1948 года рождения 3 апреля его тело со следами удушения было обнаружено в его доме внутри дивана. Установлено, что 30 марта пенсионера в результате ссоры электропроводом задушил внук, неработающий, ранее судимый за кражи. После убийства он связал дедушке руки, надел на голову полиэтиленовый пакет, обмотал скотчем и спрятал в диване.

